ѡливы, а недꙋжому з соломы и вкладал имъ на роги (Тр. гіст., 67б); въехал птоломѣй до антиѡхеи, и взложил на головꙋ свою двѣ коронѣ египту и асѣи (Кн. Мак., 61); одѣйте его, и дайте перстень на рꙋкꙋ его, и боты на ноги (Каліст, I, 9).

**д).** *Указвае на сферу дзейнасці, звязаную з прабываннем у пэўным месцы.* вѣдаемъ ꙗковыхъ теперь ꙋчителей маемъ. Вѣдаеть весъ свѣтъ ꙗко на свои степени въступають не таино тѣже, ꙗко на нихъ стоꙗть и справуютсѧ (Будны, 7—7б); Вступивши на панство иѡсифъ, з боꙗзнию божею справовал царство (Біблія, 93); вступил на египетское панство птоломе[s] доброчинны[s] (Кн. Мак., 47б); жаденъ два разы креститисѧ, ани крестити, такъ же Мѵромъ помазоватисѧ, и Іереемъ зоставати, албо два разы посщати на Іерейство не маетъ (Дзід., 4).

**е).** // *перан. Указвае на прадмет ці паняцце, якія ўсведамляюцца месцам, дзе засяроджваюцца якія-н. пачуцці, уласцівасці.* престависѧ кнзь великии Витовтъ мсца Ѡктбꙗ на памꙗть стого апсла Иꙗкова (Увар., 102); ему на памѧть приходить недостоиность его (Будны, 17б); ꙗ тобѣ на паметь привелъ (Атыла, 200); много рѡзных срѡдковъ до того слоужити мнѧщыхсѧ, на памѧть приходіло (Апакр., 2); подчашы[s] привел собѣ на памꙗт иѡсифа и его мꙋдрост вспомнел (Бельск., 28б); если зрозꙋмети прагнеш кролю, ѡткꙋль ми то впередъ на серце пришло ... послꙋхай (Варл., 11); дивꙋюсѧ, што то вамъ на мысль пришло, жесте такꙋю штꙋкꙋ вымыслили (Там жа, 254б).

**ж).** *Указвае на месца, прадмет або асобу, у бок якіх накіравана дзеянне ці якія з'яўляюцца канцавым пунктам.* поидеть оугорьскыи король на литву (АЗР, I, 1, 1340); кнзь Юрьи еще перед прыходом ихъ къ Смоленску побоꙗвшысѧ зъехал на Москву (Рач., 340); его тестаментъ на свѣтъ такъ есть поущеный (Апакр., 153б); налива[s]ко с петрыкович бывши в турове и в городку болше[s] ꙋдалъсе до высоцка и на волынь (Еўл., 44); пꙋстилисꙗ искри на мѣсто трою и запаливши выгладили все мѣсто (Тр. гіст., 67); посланы грамоты ... на Невль и на Луки (АЗР, IV, 394, 1610); ражу тобѣ иди на трꙋбецкъ до бранска ач и там з[s] трꙋдностю бꙋдет (Дыяр., 150б).

**з).** *Указвае на кірунак.* на западъ ... солнца тые три короли роботники велебные из медалана до колна перенесены (Валх., 94б); на правꙋю сторонꙋ шли есми гѡд (Алекс. XV, 1); Ѡтпꙋстившы теды васни на сторонꙋ, милꙋешъ ли бога и правдꙋ светꙋю созна[s]же (Унія, 21б); перешол до гори, котораꙗ была на въсходъ (Біблія, 33); Мо[s]се[s] спꙋстил на дол ѡчи (Бельск., 42); ѡпановал краины на всход слнца лежачие

(Стрыйк., 417); але\~андеръ скригитаючи зѹбами погледал на всѣ стороны (Алекс., 40б); ѡн ѹхилившисѧ на сторонѹ троха з^s стежки (Дыяр., 150).

**і).** *Указвае на пачатковы і канцавы пункты дзеяння, руху.* пришла сполность часа оу емъ же бог сна своего единородного сослати хотел на светъ (Валх., 42б); на початкѹ кажного стишка слово едино (Скар. ПЕ, 2б); неводу вкиненому в^s море, и с^s каждого рода собравшому, котории гды наполънитьсѧ, выволокли его на кърай (Цяп., 19); Заколешъ тежъ барана второго, которого ѡферовавши возмешъ з крови его и взложишъ на конецъ ѹха правого ааронового (Біблія, 146); огонь ... до спаленѧ мертвыхъ тѣлъ, з^s мѣстца на мѣстце переноситсѧ (Варл., 239б—240).

**к).** *Указвае на сферу дзейнасці як месца, куды накіравана якое-н. дзеянне, рух.* на жадныи сѹд себе не позывають (Вісл., 32б); крол асталюс и крол аликгус ... на валку мужне пошли (Троя, 22); ѡнъ на позовъ нашь не сталъ (КСД, 7, 1510); ѡн объвинены^s на справу до насъ приехал (Ст. 1566, 10б); Мѹжове ниневитъскіе повъстанѹть на судъ з родомъ тымъ (Цяп., 16б); помордовал много люде^s коронныхъ которие сѧ были з^sехали на се^sмъ (Хр. польск., 9б—10); онъ на жатвѹ свою подобного семѹ дѣлателѧ послати намъ рачилъ (Сматр., 51); юж в ночи приблукалисмосѧ до деревни Кривцова пѧт верстъ ѡд сѣвска лежачое, там до христіанина на ночлѣгъ ѹпросившисѧ (Дыяр., 152).

**л).** *Указвае на прадмет або з'яву, якія служаць арыенцірам руху.* ани жоны з дочокъ ихъ возмешъ сыном твоим, абы сѧ не навернули на слѣдъ боговъ их (Біблія, 153); вес Ізраиль, который стоѧлъ около оутеклъ на крик гинѹчих (Хран., 138).

**2.** *Пры выражэнні аб'ектных адносін.* **а).** *Указвае на прадмет або яго частку, а таксама на частку цела, якія з'яўляюцца апорай чаго-н.* мусели на руки Антоновы дать листъ, покул бы оную грши десеть ему оддали (АВК, XXXIX, 8, 1578); Падші прото товаріш^s его на ногі его, просечі его, мовілъ. потерпі мне, а все ѡтдам^s тобе (Цяп., 25б); Панна, ѡзми крогулѧ на руку, а поступи и сѧдь на столцы позлочоном (Трыст., 124); панъ Янъ Лапа в пани Пресецкое на свои руки взял и ку той съправе становити прырекъ (АВК, XXXVI, 229, 1582); которыи ѹклекнувши на колѣна пить будѹт (Біблія, 123б); ѹпавши на колѣнѹ поднеслъ ѡчи и рѹки свои в небо (Бельск., 16); Докѹль храмати бѹдете на обѣ ноги ваши (Мак., 4б); онъ хромалъ на ногѹ (Хран., 50б).

**б).** *Указвае на прадмет, асобу або калектыў, на якія што-н. залічваецца, якім што-н. прыпісваецца, даручаецца.* дали есмо на

крѣпость сей листъ и печѧть свою велѣли привѣсити (АЗР, I, 28, 1399); ѡтдаю грѣхы оц҃ь на дети до третѣго и четвертого рѡдꙋ (Будны, 2б); привиле^s запечатаны^s на церковъ православную берестеˢскую (Дыяр., 172б); всю маетност свою на ꙋбогие роздал (Зб. 255, 131б).

**в).** *Указвае на асобу, прадмет або з'яву, у бок якіх накіравана дзеянне.* простри крилѣ свои на рабꙋ свою (Зб. 262, 32б); коли есми говорил им бороли на мѧ без причины (Пс. XVI, 125б); збꙋдовали мост на тибре з лодъев, видѧчи то тарквиниꙋшъ спꙋстил з верхꙋ на них дрꙋгие лоди, наполненыи смолы сѣрки (Бельск., 148б); ты на мене идешъ зˢ мечемъ добытымъ, а ѧ на тебе идꙋ во имѧ гсда Саваѡѳа (Мак., 15б); скрегетали на мене зꙋбами своим (Пс. XVII, 1).

**г).** *Указвае на прадмет або асобу, да якіх набліжаюцца, з якімі сутыкаюцца.* Трыщан наскочылъ на него, и ѡт ѡдного вдару спала голова крыжнаку (Трыст., 106—107); збойца на домъ наехалъ (Мак., 23).

**д).** *Указвае на аб'ект увагі, тэму размовы.* возревши староста на люд оувидел многіе плачоуче (Пак. Хр., 19б); Жаловалъ намъ Кгобриѧловичь Викторъ на Марка ѧновича (КСД, 6, 1510); ѧ деˢ есми его не билъ ани зрадецтва на него никоторого не ведаю (КВЗС, 11, 1533); ѡбличе твое просвети на слꙋгꙋ твоег, и навчи мѧ осправедливенѧм твоим (Пс. XVI, 124); роскаЗанъемъ того врадника ... на нас побралъ по полъосма гроша (АВК, XXXVI, 103, 1582); слꙋхаимо христа на апостолы волаючого (Бер. саб., 51); Взглѧн на мене, и змилꙋйсѧ надо мною (Варл., 218); мовили господꙋ, же се не ѡгледалъ на ѡсобы не перепꙋстил имъ; але ѡблꙋдными их назвалъ (Зб. 255, 115б).

**е).** *Указвае на аб'ект, які хочуць захапіць, падпарадкаваць сабе.* поведа ѡ помстах которые мели прійти на жидов неверꙋючих (Пс. XVI, 111—111б); собравшы вси свои силы Литовские и Руские и пошли на Нѣмцы (Рач., 310); в тотъ часъ тежь рымлѧне христиѧне выправилисе на тꙋръки (Бер. саб., 42); вас вырвалъ з рꙋки мадиѧн: которыи есте повстали на дом ѡтца моего (Біблія, 126б); на противных измѣнников послал воˢско свое (Стрыйк., 524); июда переправившисѧ през потокъ и ꙋдарил на них войском (Кн. Мак., 56); антониˢ ... мел зас взѧвши алеѯндрѣю ити и на персы (Рым., 81).

**ж).** *Указвае на асобу, прадмет або з'яву, да якіх выяўляецца пэўнае пачуццё, адносіны.* ласкав боуд на слоугы свои (Пс. XVI, 92б); птоломеˢ ... былъ скромныˢ и на все лагодныˢ (Кн. Мак.,

47б); ани тежъ в^s неоуражаехъ и голодѣ до конца надѣю тратѧть, вѣдаючи же то на перемѣны бываеть^s (Мак., 167); розгнѣвалъсѧ бар*з*о на ѡ*т*ца нашего игумена (Дыяр., 150).

**з).** *Указвае на асобу, прадмет або з'яву, з якімі адзначаецца падабенства, з якімі хто- ці што-н. параўноўваецца.* барва его блѣда. на оузорок ѡлова и жолта какъ шаѳранъ (Неба, 70); негоршіи очи что похо*ди*ло на зеркость ферзиноу (Арыст., 176); ѡказалъсѧ емȣ хтось на подобенство дѣвчины (Мак., 15б); вси людѣ су*т* сотворени на ѡбра*з* и подобенъство божое (Зб. 255, 74).

**і).** *Указвае на прадмет, прызначаны для абмену на што-н., для замяшчэння чаго-н.* тые речы на пнзи маеть ѡборочати (Ст. 1588, 294); добре бы тые гроши на це*р*ковъ та*м*тую ѡбе*р*нути (Дыяр., 149б).

**к).** *Указвае на аб'ект, які з'яўляецца прызнакам асобы ці прадмета.* Ѡдно*г* часȣ гели^s на ложȣ лежа*л*, бо бы*л* на ѡчи захора*л* (Бельск., 92); довѣда*л*се ижъ было мѣсто елимай в Пе*р*сѣи ве*л*ми зацное и богатое на сребро и золото (Кн. Мак., 56).

**3.** *Пры выражэнні мэтавых адносін.* **а).** *Указвае на мэту, прызначэнне якога-н. дзеяння.* давыда сна своего на помоць несториномъ посла*л* (Валх., 91); обедъ мой зготоваломъ, быки мои и ȣкормленое побито, и все готово. приидите на свадьбу (Цяп., 30б); Листы и права, належачое на имѣнье Дубянское. Першій листъ на продажу имѣнья Дубянского (АВК, XIV, 502, 1594); абы есмо се тȣтъ на станове*н*е новое вѣры зъехали (Бер. саб., 13б); все што живо бȣде ва*м* на пока*р*мъ (Бельск., 9б); заеха*л* ему на помочъ симо*н* братъ его (Кн. Мак., 60б); вси з великою прȣ*д*костю на шȣкан^sе его вышли (Варл., 327); ѡ*н* пе*р*вы^s пре*д* всими на молитву до це*р*кви приходилъ (Зб. 255, 132).

**б).** *Указвае на прадмет ці стан як мэту, на дасягненне якой накіравана дзеянне.* послано князю великому ... 50 бочокъ овса на кони (АЗР, I, 109, 1486); каменіа навозили на боудованіе (Валх., 82); вольно было въ пушчахъ зверъ бити и дерево на будованье брати (КПД, 255, 1554); ȣчини*л* де*н* на забавы, а ночъ на лю*д*ское ѡ*т*починене (Бельск., 2); ѡ*т*бира*л* ѡ*т* ни*х* в го*л*дѣ вѣники и лыка на плете*н*е веровокъ (Стрыйк., 515); огонь на потребȣ лю*д*скȣю естъ створеный (Варл., 239б); чл҃къ се на працу родитъ (Выкл., 6); позычилъ золотыхъ двадцать чотыри ... на ложку серебреную (ИЮМ, III, 19, 1685).

**в).** *Указвае на занятак, дзеля якога прызначаецца які-н. адрэзак часу.* давывали ... къ жниву три дни, а на яръ трижъ дни (АЮЗР, I, 17, 1444); маютъ зостати при матце девка до

по<sup>s</sup>шстьѧ ее замужъ, а мущизна до летъ такихъ въ ѧкихъ вжо на наȣкȣ до школы давати годно (Ст. 1558, 279).

**г).** *Указвае на эмацыянальную ацэнку якога-н. дзеяння, падзеі.* зготовалъ перед лицем всѣхъ людеи свѣтлость на выѩвленіе поганства (Пак. Хр., 26); бȣдеть тобѣ на оутѣхȣ д͠ши и перекормити сединȣ твою занже невѣстка твоѧ (Зб. 262, 33б); вчини со мною знак на добро (Пс. XVI, 88); кгданщане противко ему бунты въщынають и росказанѧ его не суть послушни а на здоровъе его потаемне стоѧть (Рач., 349—350); мене искали самого забит, але на щасте мое в дому не был (АВК, XXXVI, 322, 1582); чинили жидове ȣчты и беседы на потѣхȣ ѡного звитежства (Кн. Мак., 48); На преложенство дозорства и писарства маютъ быти ѡбираные младенцы з<sup>s</sup> оувагою ... на чест и на хвалȣ Бжію (Ст. бр., 12б—13).

**д).** *Указвае на спецыяльнасць, прафесію, з мэтай авалодання якімі адбываецца дзеянне.* прывильевъ ... прыпытывалися меръники — отъ путныхъ бояръ, которые недавъно выкупилися на боярство (КПД, 253, 1554); закупи нас на слȣжбȣ царскую (Біблія, 101).

**4.** *Пры выражэнні часавых адносін.* **а).** *Указвае на час, да якога накіравана што-н.* его брату Роману, и ихъ дѣтемъ, тыи 4 тысячи рублій воротити исполна третего лѣта на мясопустъ (АЗР, I, 22, 1388); прислали въ его городы, къ его украиннымъ намѣстникомъ, на Николинъ день (АЗР, II, 107, 1512); хотѧ сторона позванаѧ не станеть на роки першие, тогды предъсе сȣдъ не маеть ѡтkладати на далшие роки (Ст. 1588, 186); што колвекъ маете печи, то печите, а што маете варить то варите. а што колвекъ зостанетъ сховайте на сȣбботȣ (Хран., 94).

**б).** *Указвае на час, які непасрэдна папярэднічае якому-н. дню, даце (у спалучэнні з прыназоўнікам з (с)).* съ четверга на пятницу, листы въ той справе къ нимъ послали (КПД, 61, 1540); всѣ ночевали на тотъ часъ в дому моемъ з суботы на нѣделю (АВК, XXII, 127, 1560); воевода Троцкии ȣмер с понедѣлъка на ѡвторокъ (Рач., 351); з недели на понеделокъ, вночы служебника моего ... розбил (АВК, XXXVI, 18, 1582); мсца септеврѧ з҃ днѧ со ѡлторка на средȣ (Барк., 166).

**в).** *Указвае на тэрмін, які непасрэдна ідзе за чым.-н. (пры словах, якія абазначаюць час, у спалучэнні з парадкавым лічэбнікам ці займеннікам "той").* на третие лето кн҃зь великии Швитригаило сожже Герасима. митрополита оу Витебьскоу (Увар., 106); естьли бы на тотъ рокъ Мѣрла, або ѡтчимъ его Пашко не стали, або судьи своего на землю не вывели, тогды маеть змлю

и кгвалтъ и грабежи и навезку безъ права вътратити (КСД, 23, 1510); на тотъ часъ и пнове Дозорцы новоѡбраные свои месца засѣсти маютъ (Ст. бр., 12б); на той часъ важност[s] формы, залежыт[s] на воли (Зб. вып., 4).

**г).** *Указвае на час, калі адбываецца дзеянне.* на кр҇щние в соу*б* оуеха*л* оу гра*д* Киевь (Увар., 95); тому Селиму Шахманцеръ на местцу хоружство поручилъ на сес часъ (ПВЛ, 1369, 1567); Жыкгимо*н*та Августа на великое кн*ѧ*же*н*е Литовское Литва ѡбрали на день светого Луки эва*н*гелиста (Рач., 350); которого погре*б* зложоны[s] бы*л* зразу на ке҃ авкгу*с*ты (Еўл., 53); ѡ осмой године на де*н* дошли ѡдного за*м*ку (Алекс., 27); исписаны[s] пре*з* смире*н*ного іеромонаха Афанасіа филиповича на се*с* часъ ігȣмена берест*ꙗ* литовского (Дыяр., 148б); ѡ трете[s] године на день коли с҃лнце свѣтило, ȣказалъс*ꙗ* велики[s] кре*ст* на возд*ȣ*сѣ (Пралог, 525б).

**д).** *Указвае на тэрмін, на які распаўсюджваецца пэўны стан або вынікі дзеяння.* то все есмо потвердили непорушно на вѣкъ слузѣ нашему (АЮЗР, I, 1, 1361); на д҃нь шло ѡброка по т҃ боче*к* медȣ (Увар., 102); маеть ѡнъ ... тое мыто держати на три годы (КСД, 899, 1516); пощȣс*ѧ* двойчи на сȣботȣ (Будны, 7б); постановилъ с короле*м* перемир*е* на п*ѧ*ть лѣ*т* (Рач., 349); ма*р*ца з҃ дн*ꙗ* ȣбума*р*лэмъ бе*з* вшел*ꙗ*ке[s] причины на по*л*торы годины (Еўл., 48); проро*к* наве*р*не[s]ши[s] махоме*т* п*ꙗ*т ра*з* на де*н* моли*т*с*ꙗ* б҃гȣ (Наб. тур., 20); ȣчинили прими*р*е на два дни (Тр. гіст., 70б).

**5.** *Пры выражэнні колькасных адносін.* **а).** *Указвае на колькасць, меру, якія вызначаюць межы чаго-н.* іѡрда*н* по правдиве*м* своемъ богоу есть на двонадцеть сажновъ широкъ (Валх., 86); за працу свою ижъбы большъ вижованья не брали, одно на милю по грошу (АЗР, III, 8, 1547); если хто тебе поймаеть моцъю на милю однȣ иди с[s] нимъ две (Цяп., 7); корабль бы*л* ȣже ȣроблен ... л҃ локти[s] высоко*ст* его а на локо*т* ве*р*хъ его ȣчини*л* и засклепи*в* (Біблія, 24); ȣчинѣте те*ж* сѣ*н* при домȣ з бокȣ полȣденного на сто локте[s] (Бельск., 50б); были та*м* дерева высокии на сто стопъ (Алекс., 38); ѡдно се же ступили на в҃і локти[s] (Кн. Мак., 46); Начинишъ тежь дощокъ сто*ѧ*чихъ з дерева кедрȣ в долгость, лакотъ по дес*ѧ*ти кожда*ѧ* а на ширъ полтора (Хран., 103б).

**б).** *Указвае на колькасную прымету, якой вызначаецца ўнутраны змест ці прызначэнне чаго-н.* тое море чирвоне есть на три оуглы оучинено (Валх., 47); семый позовъ о пожатье збожъя посеенаго на сто и на двадцать бочок (АВК, XXXVI, 7, 1582).

**6.** *Пры выражэнні размеркавальных адносін. Указвае на колькасны паказчык раздрабнення, падзелу.* діаконове албо соубдиꙗконове на три части розделившисе ко олтарю почливе пристоупають (Валх., 79б); отчима моего ... в дому моемъ до смерти забили, на штуки зрубали (АВК, XXII, 101, 1559); коли сѧ поткали, древа поломали на много штукъ (Трыст., 100); выписа*л* знаки небесныи ѡбхоже*не* лꙋнное и рочное и ро*к* на чотыры часты розделил (Бельск., 7); розд*ѣ*ли*л* ца*р*ство свое на ї части[s] (Кн. Мак., 46); тꙋ*р*ки на дробные кꙋсы его розсѣкли, и шабли кровъю его мазали (Хр. польск., 22); роздѣлилосꙗ кнꙗзство на воево*д*ства и повѣты (Дыяр., 149б); ѡсадилъ Аггълы и дꙋхи оныи войска моцы своей незличоныи на десѧть чиновъ раздѣленых (Хран., 1б—2).

**7.** *Пры выражэнні адносін характару і спосабу дзеяння.* **а).** *Указвае на ўмовы, абставіны ці акалічнасці, куды накіравана што-н.* ре*к* аристоте*л* ... гсь млсрдие*м* свои*м* направи тѧ на истинноу (Арыст., 137); то*т* привиле[s] на во*л*ность даный (Ст. 1556, 2б); стреле*ц* добры[s] никгды не стрелꙗе*т* на ветрь (Зб. 261, 71).

**б).** *Указвае на ўмовы, абставіны, пры якіх адбываецца якое-н. дзеянне.* шлюбуемъ никого не карати на заѡчное поведа*не* (Ст. 1566, 8); на роскоши сꙗ спросныи и тѣлесныи роспꙋща*т* и во всꙗкии злости впада*т* почали (Біблія, 23); ѡни ничо*г* на великое его и ревное его плака*не* не *д*баючи, заби*т* его ꙋже хотели (Бельск., 26б); цеса*р* авгусгь запалчи*в* и гнѣвли*в* велми, ижъ многи*х* и на сме*р*ть здава*л* нерозсу*д*не (Рым., 81б).

**в).** *Указвае на характар ці спосаб дзеяння, асаблівасці выяўлення працэсу.* жидове неправедне его на смр҃ть выдали (Пак. Хр., 24); выдасьть братъ брата на сьмерть (Цяп., 62б); патріа*р*хи ... на мо*ц* дх҃овнꙋю ꙋстановленіи ꙗ*к* ѡфициери единого кролꙗ повинни власне з собою жити зго*д*не в[s] милости брате*р*ско[s] (Дыяр., 173б); оуповаючи на великое млсрдіе твое ... ѡ*т*даюсѧ тебѣ нн҃ѣ за слꙋгꙋ (Ст. бр., 1).

**г).** *Указвае на пераход да іншага спосабу ці характару дзеяння.* съ канъцлерыи листы заручные на заочъныи повести не были выдаваны (КПД, 122, 1544); ѡбратил был множство люду на хрестѧнскую вѣру (Трыст., 71); Пани ... которую есмо у великои почестности мѣли, а тепер есть ѡсужона на смерть (Там жа, 73); а*р*хиереское достои*н*ство перемени*л* в ца*р*ство на соромоту и легко*ст* станꙋ а*р*хиере[s]ского (Кн. Мак., 65б); Епископъ ... жида тежъ ѡного на вѣрꙋ хре*с*тиа*н*скꙋю наве*р*ну*л* (Зб. 107, 163б).

**д).** *Указвае на мову як сродак зносін.* Книга ... зꙋполне выложена на рꙋскыи ꙗзыкъ (Скар. ПБ, 1); Катихисісъ слово есть

грэческого ꙗзыка, сказует же сѧ на словенскую рѣчь оглашеніе (Будны, 6); з[s] грэческого на съловенский езык[s] перекладал[s] (Цяп., 3); бжественныи книги з грэческог на словенски[s] ꙗзыкъ переложивши наүчали (Стрыйк., 434); преводники з евре[s]ского на ꙗзыкъ Грецки[s] болше[s] нижли двѣсте тисечи[s] книгъ переложили (Кн. Мак., 47); того Макаріѧ стого книжку, теперъ свѣжо з[s] Грецкого на простый Рүскій ꙗзыкъ переложенүю ... дедікүетъ (Мак., 6).

**8.** *Пры выражэнні адносін меры і ступені. Указвае на паўнату выяўлення якога-н. дзеяння або прызнака.* ѡтоль на вес свѣтъ вышло иже перъдъ [так!] солнцемъ захода троижда звонѧть ве звонъ (Валх., 73б); соймовъ на всю землю не[з]бирано (КПД, 141, 1547); поүчители на весь светъ посылаеть. на ѡповеданье слова божого (Бер. саб., 53); зтꙗгни рүку твою и посохъ твой на воды и выпүдь на всю землю египетскую жабы (Біблія, 114); Египтꙗне мүдрии ... на вес свѣтъ выдали велми широко үзнане наүкъ чернокнижских (Алекс., 1); леѯікон[s] назвал по словенскү реченникъ ... на свѣтъ выдалъ (Бяр., прадм.).

**9.** *Пры выражэнні прычынных адносін. Указвае на падставу, абгрунтаванне якога-н. дзеяння.* на молитвы ихъ панъ бог ихъ сномъ ѡбдарил (Жыц. Ал., 97); мелхиседекъ теды готовавсꙗ на росказане ѡтцовское (Біблія, 37); на прозбу сенатү был выпүщоны[s] (Хр. польск., 7б); на жалобү по дѣткахъ милыхъ, розделъ шаты свои (Хран., 56).

**10.** *Пры выражэнні адносін пераўтварэння. Указвае на прадмет, у які пераходзіць або ператвараецца ранейшы прадмет.* кадилницы мосꙗзовыи собрал ѡт спаленых люде[s], а росклепал на блꙗхи (Бельск., 61б); Желѣзо, олов[s], золото, албо сребро в[s] огонь вкиненое тратѧть твердость натүры своеи, ѡтмѣнившисѧ на мѧккост[s] (Мак., 36).

**II.** *З месным склонам.* **1.** *Пры выражэнні прасторавых адносін.* **а).** *Указвае на месца ці прадмет, на якім (на паверхні якога) знаходзіцца хто- або што-н., адбываецца якое-н. дзеянне.* поставили есмо церковъ на дворѣ нашомъ, во Мстиславью (АЗР, I, 79, 1463); мы велели ему на баховци искати (КСД, 3, 1510); шляхтѣ было вольно въ своихъ имѣньяхъ, на гостинцахъ, корчмы будовати (АЗР, III, 37, 1551); маеть седети на замъку нашом шэст недель (Ст. 1566, 17); коли король Марко изъ Ижотою будут на постели, даите им напитьсѧ того питꙗ (Трыст., 66); На пашни: жита посѣеного бочокъ петьдесятъ (АВК, XIV, 453, 1593); поднессꙗ корабль и плавал на водѣ (Бельск., 9); нашол его на постели мертвого лежачого (Тр. гіст., 71).

**б).** *Указвае на жывую істоту, асобу ці частку цела як на прадмет, на якім (на паверхні якога) знаходзіцца хто- або што-н., адбываецца якое-н. дзеянне.* люди видели м҃рію молодицоу на ѡслици седѧщоу (Валх., 44); виделъ на правой руце на пальцу середнемъ рану кривавую (АВК, XXII, 119, 1560); коронꙋ золотꙋю з каменье*м* коштовны*м* на головѣ мѣла (Алекс., 23б); ѡбачиле*м* младе*н*ца в<sup>s</sup> ма*н*тіи на конѣ ѣшомъ сидꙗчого (Дыяр., 151б); тотъ ванцату*р* тѣломъ ма*л* бы*л* але хитры<sup>s</sup>, и на конѣ жестокій (Алекс. 1697, 3б).

**в).** *Указвае на прадмет, паверхня якога з'яўляецца месцам выканання, знаходжання чаго-н.* его виденіе на столъпе какъ на печати се выписало (Валх., 73); въ той же прозьбе своей на писмѣ доложили, ижъ немалое вонтпѣнье межи нами есть (АЗР, III, 7, 1547); тые прозьбы ... къ королю и великому князю, чинили и на писмѣ подали (Там жа, 38, 1551); принесли ей ѡбра*з* намалеваный на ко*р*тыне (Алекс., 39); было то писано до него на таблица*х* мѣдꙗны*х* (Кн. Мак., 64); наѯахорсъ ꙋзрѣлъ царицꙋ с царе*м* филипо*м* на потыкан<sup>s</sup>ю (Алекс. 1697, 4).

**г).** *Указвае на прадмет, на якім замацаваны або на які надзеты іншы прадмет.* моущоу быти на кр҃сте прибитъ (Пак. Хр., 4б); у коморы оконъ два безъ блонъ; оконницы на завѣсахъ (АВК, XIV, 641, 1599); приворотилъ ѡдного на мѣстце свое, абы ему кꙋбокъ подава*л*, а дрꙋгого ѡбѣсилъ на шибеницы (Біблія, 91); каза*л* ѡбра*з* на е*г* гробѣ на стлꙋпи завѣси*т* (Бельск., 12); ины*х* злꙋпленых на дерева*х* вѣшали (Стрыйк., 534); приказа*л* рицере*м* свои*м*, абы послы дариевы по<sup>s</sup>мали а на шибеницы повѣша*т* казали (Алекс., 7б).

**д).** *Указвае на сферу дзейнасці, звязаную з прабываннем у пэўным месцы.* тобе, брату нашому, далъ Богъ сести на царстве на стол[ь]цы отца своего (КЗ, 452, 1486); дорослы<sup>s</sup> братъ бы*л* на служъбе ꙋ чужи*х* краинахъ (Ст. 1566, 79б); проходечи Исъ ѡ*т*туле ꙋвиделъ человека седѧчого на мыте (Цяп., 11б); сѣлъ на столицы птоломе<sup>s</sup> доброчи*н*ны<sup>s</sup> (Кн. Мак., 47б); Седѣ*л* владисла*в* на панствѣ лѣ*т* ꙇ҃ (Хр. польск., 14).

**е).** // *перан. Указвае на прадмет ці паняцце, якія ўсведамляюцца месцам, дзе засяроджваюцца якія-н. пачуцці, уласцівасці.* Атыльлѧ тогды, которого по угорски зовуть Этэле, был середнего узросту ... ѡбъличѧ чернѧвого, ѡчю свѣтлых, на взглѧде быстрость (Атыла, 178—179); при добро<sup>s</sup> памети и здоровы<sup>s</sup> на розꙋме былъ (Ст. 1588, 335); ѡбразъ и фикгꙋрꙋ въ оумѣ, и на мысли своей изѡбразивши, потомъ и видомыми знаками, нарысꙋетъ, албо вымалюетъ (Карп., 30); которое кланꙗне

наˢболшеˢ залежи*т* на ꙋмысле ꙗким сꙗ хто се*р*цемъ клан*ѧ*е*т* (Аб абр., 35, 1622); плохимъ сталъсѧ на розꙋмѣ, ꙗкъ бы николи слова Бж҃ого не слышалˢ (Мак., 263); вѣчнꙋю смерть на д҃ши понесꙋ (Варл., 350б); жа*д*ного ѡ*т*вороче*н*ꙗ не чꙋлъ на ꙋмысле (Зб. 255, 114б); болѣю на внꙋтрѣ и на се*р*ци (Пралог, 491).

**ж).** *Указвае на прастору або прадмет, у межах якіх адбываецца якое-н. дзеянне.* придалъ есми святому Іоану ... на Начѣ на рѣцѣ землю зъ бортью (АЗР, I, 27—28, 1399); записалъ ... тотъ слѣдъ Тимонятинскій на Головли (АСД, II, 3, 1454); князь Богданъ Путивльскій, будучи на Москвѣ у великого князя у вязенствѣ, Богу душу отдалъ (АЗР, II, 100, 1512); кнегини Марья и зъ сыномъ своимъ княземъ Василемъ, будучи на Пинску, на замку своемъ отчизномъ, дали отцу его ... имѣнье (РПП, 79, 1522); Ски*р*монтъ по*ч*неть кн*ѧ*жыти на Новегородъцы а Кги*н*ви*л* на Поло*ц*ку (Рач., 300); ꙋслышали, голо*с* мовꙗчи на повѣтрꙋ (Алекс., 36б); отъ Яна Карола Хадкѣвича, граби на Шкловѣ и Мыши и на Быховѣ (АЗР, IV, 442, 1615); ѡкрꙋта прꙋдко на моры плынꙋчого, и птаха на повѣтрꙋ лѣт*ѧ*чого, слѣды ꙗкъ нарыхлѣй гинꙋтъ (Варл., 25).

**з).** *Ужываецца пры адначасовым абазначэнні і сферы месца дзеяння, і непасрэднага дачынення да гэтага дзеяння, удзелу ў якой-н. дзейнасці.* мѣлъ ѡ томъ съ тобою право передъ паны радою на соймѣ (КСД, 22, 1510); на томъ розбою, ранах и лупе бралисе до прысяги (АВК, XXXVI, 201, 1582); нигдеˢ и*н*де ѡдно на соˢме великомъ ва*л*номъ ... карати роскажемъ (Ст. 1588, 4); На врядѣ господарскомъ кгродскомъ ... оповѣдалъ (АВК, XIV, 389, 1591); на сэˢме ты*м* кро*м* намо*в* ѡ кгда*н*ща*х* [так!] ничого не справи*в*ши пожекгна*ли* послове крол*ѧ* его м*лст* (Еўл., 17); самъ з ними на ты*х* бесѣда*х* не быва*л* (Біблія, 77); мови*л* до ни*х* слова спокойныи на здрадѣ (Кн. Мак., 49); За пропоˢско*м* на ночлѣгу вˢ селѣ мнѣмале*м* на сане*х* мои*х* же хомꙋ*т* лежитъ (Дыяр., 150б—151).

**і).** *Указвае на кірунак.* книги ѡриеновы кторе на ꙋстоце знаити могли просбами и мыто*м* к собе прит*ѧ*гноули и коупили (Валх., 82б); виделисмо бо звездꙋ его на всходе (Цяп., 3); которые зе*м*ли на востоцэ або на западе вси, прыходечы клан*ѧ*лис*ѧ* великому кнз҃ю Вито*в*ту (Рач., 333); на по*л*ночи вˢ европе широко панова*л* (Бельск., 11); тые на левицы а та*м*тые на правицы по*с*тавꙗ*т* (Зб. 255, 121б).

**к).** *Указвае на пачатковы і канцавы пункты дзеяння.* на конци горы дроугій горо*д* оучинили (Валх., 74); ойцу наместнику

Епископии Белоруской, на выезде зъ Могилева до Вилна, вина кгарнецъ, дано золот. чотыри (ИЮМ, I, 238, 1682).

**2.** *Пры выражэнні аб'ектных адносін.* **а).** *Указвае на прадмет або на яго частку, а таксама на частку цела, якія з'яўляюцца апорай чаго-н.* такъ стомилъсѧ был на молитве ажь на нагах стоꙗти не моглъ (Пак. Хр., 6б); дрꙋгие пали на каменѧх<sup>s</sup>, где не маючи земли многие, и натых<sup>s</sup>местъ выніклі, ижъ не мелі глꙋбокості земли (Цяп., 17); с пол годины на рꙋкахъ дꙋховника своего была (Барк., 153б); ѡна ꙋспала его на колѣнехъ своихъ, и положила голову его на своем лонѣ (Біблія, 133); на рукахъ своих, ꙗко дитѧ пѣстꙋючи, носила (Каліст, II, 208); на рукахъ своихъ абы еи носили (Сматр., 54).

**б).** *Указвае на аб'ект увагі, які з'яўляецца аб'ектам выяўлення пэўнага дзеяння.* мы велели правомъ на немъ поискивати (КСД, 2, 1510); будет ли ѡн тое рады его не ведал, а на то право поднесеть (Ст. 1529-Ф, 3); млсрдьꙗ твое велико ест на мнѣ (Пс. XVI, 88); Мають их милость, пан Верпеховский з малъжонкою своею верху помененые люди, от мене их милости заставленые, на себе держати (АВК, XXXVI, 62—63, 1582); мыто на шлꙗхте брано быти не маеть (Ст. 1588, 40); всѣ проклятства нехай зостануть на немъ и на дому его (АСД, II, 16, 1599); ꙋказалсе алеѯандрови меркури<sup>s</sup> маючи на собѣ ѡдѣне макидонское (Алекс., 17).

**в).** *Указвае на прадмет, пры дапамозе якога ўтвараецца дзеянне.* ходиш на крылоу ветрьних, которы чиниш (Пс. XVI, 103); игривали на трубах дубасныхъ (Рач., 298); то<sup>s</sup> был ѡтцем играючих на арѳахъ и музыцким начиню (Біблія, 22); пришол до него играючи жалосно на гуслꙗх (Тр. гіст., 71).

**г).** *Указвае на сродак перамяшчэння, а таксама прадмет або частку цела, на якіх ці з дапамогай якіх адбываецца перамяшчэнне.* велѣлъ его поднѧти на крижоу (Пак. Хр., 21б); постеле и иные потребы до коморы и до коухней прислоухающе оусе с собою носѧт на молех на велблоудех на конех (Валх., 46б); ѡни несꙋчи збоже на ѡслах своих поехали (Бельск., 30); ꙗ сам Ектора до мѣста понесу на плечахъ своих (Тр. гіст.,71); на возѣ привезен до сендомира (Хр. польск., 12).

**3.** *Пры выражэнні часавых адносін. Указвае на час, у межах якога што-н. адбываецца.* было блгвещение оу понедлокъ на стрстнои недели (Увар., 98); После того побоища на третеи недѣли кнзь великии Жыкгимонт собрал свою силу Литовскую (Рач., 337); жона моꙗ сына мартина ꙋродила в ночи на г҃і године (Еўл., 33); статками на весне сами гcounodари свое збоже тра-

вили (Барк., 164); кгды было на свитанюо, спѹстил гдъ бгъ на них дожчъ (Бельск., 46); на свитанѕю до Крола пришолъ (Варл., 203б); на свитаню рѹки и очи вѕ нбо поднеслъ (Там жа, 353б).

**4.** *Пры выражэнні адносін характару і спосабу дзеяння. Указвае на ўмовы, абставіны, пры якіх адбываецца дзеянне ці выяўляецца які-н. прызнак.* уларь дьяконскій на серебрѣ, а другій гарусовый (АЗР, I, 136, 1494); на тои радости велѣлъ король Марко витеземъ исполнити серцо весельем (Трыст., 85); на ласце его милости, если ми того не позволитъ, я тымъ ниякое переказы ... чынити не буду (АВК, XX, 60, 1588); слѹжит малженствѹ в плачѹ не хотѣли ѡдно на молитвѣ на посте и працы трѹдилисѧ (Бельск., 6); се такий екъсцесъ сталъ ... отъ особы тое, которая сама на справедливости заседаетъ (АВК, XX, 246, 1615); целѹю ночъ на молитвѣ стоачи, и припоминаючи ѡбѣтницы свои Бгѹ оучиненые (Варл., 272); ѹдавшисе до гсда на млтвѣ мовил (Зб. 107, 123).

**На II** *часц. Вазмі, бяры.* Напрод оудою На: Гды хто що мѣти хочетъ. Сѣткою Дай: Гды хто чого оутратити боитъсѧ (Паўуст., 5б).

**Нааматеянинъ** *наз. Прадстаўнік старажытнага племені аманітаў.* ѡтвѣчал цофаръ нааматѣѧнинѕ и рек: чи многословномѹ нѣт ѡтвѣта (Зб. 262, 16б).

**Нааматийский** *прым. ад* нааматеянинъ. пошли елифазъ теманіанинъ и билдад шухиискии и цофаръ нааматіискии и оучинили ѧко же реклъ к нимъ гъ (Зб. 262, 30б).

**Набаваный** *дзеепрым. ад* набавити *ў* 2 *знач.* шкодою набавени были пилныи добрихъ речеѕ милостники (Пралог, 560б).

**Набавити** *дзеясл.* **1.** *Дабавіць, прыбавіць, павялічыць.* виленского писара в скарбе кр его млсти которыѕ ме барзеѕ вжэ то личбы въправил и доброго, ме пожитку набавил (Еўл., 3); Бже ... повседневнои всѣхъ смерти набавилъ (Лям., 9).

**2.** *Нанесці, прычыніць.* еще ми и велкеѕ шкоды набавил (Еўл., 22).

**3.** *// перан. Выклікаць, усяліць.* вежа се ѡбалила, а ѡных всѣх страшливым ѹпадком набавила (Бельск., 381б); вамъ пригоже бъ того остерегати и худому въ томъ воли не давати, штобъ кручины большіе и смуты какой не набавить (АЗР, IV, 493, 1615); ѡтцѹ моемѹ если тепер ѡ том донесешѕ, ничого иншого не докажешъ, только же его срдце жалем и фрасѹнком набавиш (Варл., 182б); фѹрия витебская галасами повѣтрие наполнила страхом ѡколичных набавила (Зб. 259, 581б—582).

**Набавляти** *дзеясл. Дабаўляць.* иѹстина ... цнот ѹсихъ набавляючи и в них росла (Зб. 752, 146б).

**Набарзей, набардзей, набараздей** *прысл. Тое, што і* найбарзей. ꙗкгаѕло ме*л* з витебска с кесту*тем* же ити посполу и наба*р*зеѕ (Патр. К, 46); почала мовить о суме пенезей, которая у его милости пана Глебовича, яко бы се набараздей одыскать могла (АВК, XVIII, 206, 1607); в самыхъ мнимых хрістіѧне*х* любовъ высыхаетѕ ... а страсть миролюбіѧ и самолюбіѧ наба*рз*ѣй сѧ кгрꙋнтꙋетѕ (Карп., 7б); абы тело мое ... поховано было, яко набардзѣй быть може (АВК, II, 43, 1617); Бы набарзей оутѣхи свѣтніи, на смѣхи по*д*биѧли бꙋбенка, нѣтъ на немъ оутѣхи (Лям., 19); того бовѣмъ зѕ писмъ Бг҃о дх҃овне*н*ныхѕ наоучившисѧ, на*д* все наба*рз*ѣ*и* Црство Нб҃сное быть розѣмꙋю (Варл., 63); вспо*м*нѣмъ на ла*с*ку ѡ*т*кꙋпителеву на*м* ꙋзычоную и ѡ*т* на*с* взго*р*жоную, а наба*рз*ѣѕ жесмо ча*с* на*м* даныѕ длꙗ покаꙗніѧ ꙋтратили (Зб. 107, 110б); на то*т* ча*с* наба*р*зеѕ вонтпи*т* бꙋде*т*, е*с*ли ненави*с*ти чыли мл*с*ти божое годе*н* (Зб. 255, 392б—393).

**Набатъ** *наз. Вялікі барабан.* Москвичи ... въ набаты и въ колоколы всю ночь били (АЗР, IV, 486, 1615).

**Набеганье, набеганъе** *наз.* **1.** *Дакука, частае з'яўленне, прыход.* господаръ ... великое набеганье и докуки от нихъ маеть, которые сами до его милости у кривъдахъ своихъ утекають (КПД, 51, 1538); его королевская милость ... за частымъ набеганьемъ бояръ повету Вилкомирского ... листы свои господарские писати росказати рачылъ (АВК, XXIV, 355, 1574); ниякое докуки и набеганъя за жалобами его в томъ не терпели (АВК, XXXIX, 154, 1579); от розных особъ частые набеганя и жалобы на тых покутных ремесников в цеху своемъ меваютъ (СДГВ, 177, 1597); ураду докуку и набегане чинимъ и зъ собою непристойне мешкаемъ (ИЮМ, VIII, 274, 1606).

**2.** *Набег.* заховай ѡ*т* голодꙋ и повѣтрѧ ... ѡ*т* набѣга*н*ѧ пограничныхъ чꙋжоземскихъ ... народѡвъ (Каліст, II, 327).

**Набегачъ** *наз. Прэтэндэнт; той, хто прэтэндуе на што-н.* ꙗко набегача ца*р*ства з невымо*в*ною зе*л*жыво*ст*ю ѡблоча*т* (Зб. 255, 270).

**Набегаючий** *дзеепрым. Які робіць набег, напад.* натираючимъ на нихъ непріѧтелемъ албо и не набѣгаючимъ, на ихъ воли оуживати брони, потыкатисѧ, битисѧ (Мак., 259).

**Набеглейший** *прым., найвыш. ст. ад* беглый *у* 3 *знач.* з свои*х* намꙋжнѣѕшо*г* и в справа*х* рице*р*ски*х* набеглѣѕшого мꙋжа и вожа собѣ ѡбирали (Стрыйк., 428б).

**Набеглый** *дзеепрым. Які пакрываецца чым-н.; чырванее ад прыліву крыві.* въ жоны его Ориши видѣлъ есьми на руцѣ пра-

вой вышей локтя рана синяя, битая, кровью набѣглая (АВК, VI, 68, 1589); виделъ есми на томъ Яну Мочульскомъ ... на плечи левомъ рану синюю, кровью набеглую (АВК, XVIII, 64, 1589).

**Набегнути** *дзеясл. Папасці, знянацку, выпадкова трапіць куды-н., зачапіць што-н.* Сморщ^s, по нѣкіи*х*: Сикавка, или оболокъ, которы*и* з^s нб̃а спѹстившисѧ, водѹ з^s морѧ смокче*т*: и если корабль набѣгне*т* на тое мѣстце и з^s людми его порива-е*т*, пото*м* пѹстивши и розбивает^s корабль (Бяр., 151).

**Набегъ** *наз. Набег.* всѣ мѣстечка, и кождый замокъ оузброенымъ жолнѣремъ напротивъ непріателскихъ набѣгѡвъ зовсѣхъ мѣстцъ пилно обварованы бываютъ (Каліст, I, 48); насъ по*д*даны*х* его а людъ свой ѡ*т* вшелѧкихъ набѣгѡвъ и небезпеченствъ ... оустереже*т* (Каліст, II, 348).

**Набедитися** *дзеясл. Намучыцца.* трѹдно ити ва*м* на смоленъскъ и дорогобѹжъ за границѹ до Москвы. виле*н*скіи че*рн*ци мѣли и пашпортъ кроле*в*ски^s та*к*же ·длꙗ ꙗ*л*мо*ж*ъны много сꙗ набѣдили (Дыяр., 150б).

**Набедрики, набедрыки** *наз. Набедрыкі, набадры, паўшоры, шлеі.* ковшовъ черленыхъ тры, ужишча два, набедърики (АВК, XXI, 194, 1556—1557); зъ стайни кляча ... украдена ... хомутъ зъ набедриками (АВК, XVIII, 71, 1589); хомут з набедрыками, коштовал грошей шестнатцать (АВК, XXX, 59, 1590); хомутовъ три зъ набедрыками, коштовали дей по золотому польскому (АВК, VIII, 465, 1593); коня дей его властного ... з набедрыками и з уздою ... взял и played пограбил (АВК, XXXI, 282, 1598).

**Набедрникъ, набедрикъ** *наз. Набедранік.* Сопогы и набедрне и наплечникъ возложилъ естъ на него (Скар. IC, 72—72б); иди до реки ефраты а захова^s та*м* набе*д*рикъ (Бельск., 138).

**Набедрыки** *гл.* набедрики

**Набезпечней** *прысл., найвыш. ст. ад* безпечне. Таки*м* прето способо*м* ꙗ*к* набезпечнѣй бога*т*ства твои вси пре*з* оубогихъ рѹки та*м* пере*шл*еш^s (Варл., 126б).

**Набезпечнейший** *прым. Тое, што і* найбезпечнейший. Призва*л* до себе а*р*кгѹса мисте*р*ног*г* теслю, котором*ѹ* росказа*л* на водѹ бѹдова*т* ѡкрѹ*т*, ꙗки^s бы моглъ набезпе*ч*нѣ^sши^s а моцнѣ^sши^s и бо*л*ши^s ѹчини*т* (Бельск., 78б).

**Набелъ** *наз. Малочныя прадукты.* Въ томъ же дей дворе, набелу зобраного погорело: масла деревянокъ шесть, сыровъ копъ чотыри (АВК, XVIII, 44, 1582); набелу масла горшковъ пять, сыровъ копъ двѣ (АВК, XIV, 456, 1593); пятая часть всих и вшеляких земль ... набелу молочного и всих иныхъ добръ ... мне Ленарту Матеевичу Ивовичу ... прыналежит (АВК, XXXII, 265—266, 1596).

**Набечи** *дзеясл.* 1. *Імкліва рухаючыся дагнаць, нагнаць каго-н.* натрафи*л* еленꙗ, которо*г* коне*м* набегши хотѣ*л* его ꙋдари*т* мече*м* але не поспѣ*л*, бо еле*н* попередивши ꙋдари*л* цесара рого*м* и с конꙗ скину*л* (Бельск., 373б).

2. *Бегучы наткнуцца, натрапіць на каго-н.* ꙗ великій царю вмалѣ есмо втѣкъ ѡ*т* него, а на твою сторожꙋ набѣглъ есми (Алекс. 1697, 79б).

**Набечися** *дзеясл. зв. Назбягацца, збегчыся ў вялікай колькасці.* набѣглосꙗ ѡ*т*все*л* до а*н*тиѡхии, где дво*р* ца*р*ски[s] бы*л*, мно*г* чаро*в*нико*в*, воро*ж*ко*в*, вѣщко*в*, заклинačо*в*, и ины*х* збро*д*не[s] (Бельск., 278б); з ѡно*г* по*ст*рахꙋ и воева*н*ꙗ, ве*л*ми се мно*г* до алекса*н*дрѣи люде[s] набѣгло, которие голо*д* велики[s] в мѣсте ꙋчини*ли* (Там жа, 33б).

**Набиванье** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* набивати. За набиване бочокъ двухъ, обручовъ тринадцать, Степану бондарю заплатили (ИЮМ, IV, 239, 1686); Прокопу бондару за набиване бочки на воду, возить и черпать, дали осм. (ИЮМ, VI, 157, 1689); набиване обручовъ на тые полкуфы набилъ бонъдаръ обручовъ шестдесятъ чотыри (ИЮМ, IX, 127, 1692); направене и набиване гарцовъ трехъ, полкгарцовокъ двюхъ и кварты одной (ИЮМ, X, 21, 1695); За набиване бочки водяной дали (ИЮМ, XI, 87, 1697). *Параўн.* набиянье.

2. *Набіванне, напіхванне, запаўненне.* За роботу Чулку и за набиване глиною угловъ, за все заплатили золотыхъ пять (ИЮМ, IV, 117, 1686).

**Набивати** *дзеясл. Набіваць, ударамі насаджваць.* Четвертаго дня, бочки старые набивали, за обручовъ тринадцать заплатили (ИЮМ, III, 142, 1685).

**Набирати** *дзеясл.* 1. *Набіраць, накладваць.* песокъ емꙋ ѡ*т* мейсца на мей*с*це и высыповать, и за*с* набира*т* казалъ (Пралог, 677).

2. *Браць, захопліваць з сабою.* лис*т*е рвали а выпиꙗли з ни*х* водꙋ, и до ѡкрꙋто*в* собѣ набирали (Бельск., 402).

3. *Набываць, купляць.* злота, пере*л* и дорогого каме*н*ꙗ где приехали ѡ*т* них наб*и*рали (Бельск., 402).

4. *Збіраць, запасаць, назапашваць.* овцы, албо велблюды, нападши на травꙋ лакоме и хтиве жрꙋт[s]: и живности в[s] себе набирают[s]: которого потомъ в[s] недостаткꙋ звнꙋтра ѡ*д*ригаютъ, и пережовываютъ (Мак., 296).

**Набиратися** *дзеясл. зв. Пераймаць, засвойваць, убіраць у сябе што-н.* ѡ*т* тыхъ ча*с* часто навежалъ ст҃го феѡдосиꙗ, и набира*л*сꙗ дꙋховно[s] наꙋки (Пралог, 645).

**Набити** *дзеясл.* 1. *Наўбіваць.* наби*в*шы ему гвозде в подо*ш*вы ходи*т* ему казано (Зб. 752, 19б); староста росказа*л* желѣзного гвоздѧ набити в ноги его и пере*д* колесницею своею гнати (Пралог, 490б); ѡкрꙋтникъ казалъ в дощки набить желѣзъ ѡстрихъ розмаите закривленыхъ, а над[s] ними коло (Там жа, 613); каза*л* наби*т* гвозди[s] ѡстри*х* в зе*м*лю ча*с*тыхъ и высоких (Зб. 82, 342).

2. *Прыбіць, прымацаваць.* естли бы двери ѡна набьемъ на ню дощкꙋ цедровꙋ (Зб. 262, 86).

3. *Набіць, ударамі насадзіць.* на тые полкуфы набилъ бонъдаръ обручовъ шестдесятъ чотыри (ИЮМ, IX, 127, 1692); на которые бочъки набилъ обручовъ сорокъ два (Там жа, 139).

4. *Забіць, зарэзаць; нарэзаць.* набиеши множество волов[s] и овець дабы могъ досыть дати имъ (Скар. ЛК, 28б); ѡвецъ и воловъ мно*ж*ства набию*т* жебы имъ достало ку еде*н*ю (Біблія, 187); впрова*д* мꙋжи в до*м* наби[s] з бы*д*ла и҆ нагоտу[s] ꙋчтꙋ (Бельск., 30б); набивши Валакъ воловъ и овецъ послалъ до Валаама (Хран., 143б).

5. *Пазабіваць, забіць у вялікай колькасці.* людꙋ посполито*г* ... бе*з* ли*ч*бы набили неви*н*не а*ж* кро*в* реками тече (Бельск., 89б); мило на*м* буде всѣмъ помере*т*, ѡдно сѧ ты*х* псовъ пога*н*ски*х* неха[s] еще доволи набиемы (Хр. польск., 21).

6. *Зарадзіць, набіць (пра зброю).* казали мꙋ мꙋшке*т* набити двома кꙋлями (Дыяр., 178б).

**Набитый** *дзеепрым.* 1. *Ад* набити *ў* 1 *знач.* оказалъ осмъ копцовъ а пятнадцать паль набитыхъ (АСД, I, 97, 154б); ѡбꙋты[s] бы*л* в боты железныи в которы*х* ботахъ было ѡстрого а желе*з*ного гвоздѧ набито (Зб. 81, 188б—189); порва*в*шы с҃того ѡбꙋли в железныи его боты гвоздми набитыи (Зб. 752, 12); ѡкрꙋтникъ каза*л* на его ноги боты в[s] которихъ ѡстрие желѣза были в подошъвахъ набиты вложити (Пралог, 613б).

2. *Ад* набити *ў* 4 *знач.* та*к* мно*г* набито воло*в*, албо ѡве*ц*, штобы и*х* моглъ нако*р*ми*т* (Бельск., 59).

3. *Ад* набити *ў* 6 *знач.* пофативши там полгак набитый ... приложивши до него курок, почал на мене мерит (АВК, XXXVI, 366, 1582); длѧ направы до ремесника рꙋчницы не набитые ... ѡ*д*носити вольно (Ст. 1588, 14); длѧ того*ж* нѣѧки[s] ѡстромецки[s] прꙋса*к* ꙋчини*л* на то скри*н*кꙋ желѣзнꙋю, в которо[s] было ві҃ рꙋ*р* набиты*х* и порохꙋ в не[s] полно (Стрыйк., 59б).

**Набитье, набице** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* набити *ў* 5 *знач.* завтра ѧ тобѣ да*м* наби*т*е и*х*, возы попали*ш*, а коне*м* и*х* жилы по*д*рѣжешъ (Бельск. 69б).

2. *Выбіццё, набіццё, адбітак чаго-н. на металічным вырабе.* монета золотаѧ без набитѕѧ гербꙋ кролевского вѕ гандлю кꙋпецства не заживаетъсѧ (Мак., 284).

3. *Парахавы зарад.* казалъ п. войтъ набице зъ подъделковъ выстрелить (ИЮМ, XIII, 80, 1699).

**Набияный** *дзеепрым. Інкруставаны, упрыгожаны набіўнымі ўзорамі.* шкатулка чорная замчистая, золотомъ набіяна (АВК, XIV, 362, 1590); шабля в цапе зеленой, золотомъ набияна, в ней паски шолъковые з серебромъ (ИЮМ, XXIV, 230, 1635); За обушокъ серебромъ набѣяный пану Агапею Шабели, золот. два (ИЮМ, I, 139, 1681); Обухъ сребромъ набияный, дали золотыхъ два (ИЮМ, II, 31, 1683).

**Набиянье** *наз. Тое, што і* набиванье *ў* 1 *знач.* За набияне бочки, што воду возятъ (ИЮМ, I, 175, 1681); За набияне бочокъ за тринадцать обручовъ бондару заплатили (ИЮМ, IV, 241, 1686); За набіяне бочокъ и шафликовъ дали (ИЮМ, XIII, 63, 1699).

**Набияти** *дзеясл. Набіваць, напіхваць, туга запаўняць.* Ѳараѡнъ в жизные лѣта ховалъ пилно збоже, которимъ набиꙗлъ шпихлеры, абы голодꙋ потомъ не чулъ (Зб. 259, 463б—464).

**Наближей, наближе** *прысл.* 1. *Тое, што і* найближей. судьи мають взяти вижа у дворе нашом, который колвекъ наближе будет (Ст. 1529, 53); маеть с тым лицом веден бытии до враду нашего, где наближей будет, а врад мает ему справедливость вчинити (Там жа, 95); тот господаръ ... маеть ... до врѧдꙋ н҃шего, которыѕ будеть наближеѕ ехати (Ст. 1566 I, 84); маеть тое положене позвꙋ возныѕ ѡповедати воѕту, або ꙗкомꙋ кольвекъ подданомꙋ, того двора, которыѕ будеть наближеѕ того двора (Ст. 1588, 147).

2. *Найкарацей, не менш чым.* через листы свои ѡтвороные, и черезъ возного дати ведати стороне перед роками земъскими наближеѕ за тыдень (Ст. 1588, 161).

**Наближший** *гл.* наблизший

**Наближшый** *гл.* наблизший

**Наблизний** *прым. Тое, што і* наблизший *у* 4 *знач.* Жигимонтъ третій, Божою млстью королъ полскій ... и королевства швецъкого наблизній дедичъ (ИЮМ, VIII, 197, 1591).

**Наблизце** *прысл. Скора, у хуткім, у недалёкім часе.* слышачи нашо приеханье на близце, мало не хотѣлъ еси нас дождати, тых посланых речеи к нам донести (ПГ, I, 198, 1459).

**Наблизший, наближший, наближшый, наблизшый** *прым.* 1. *Тое, што і* найблизший *у* 1 *знач.* тые позвы прэдсꙗ ꙗко до на-

близшого двора ѡт тое волости ѡного пна несены ... быти мають (Ст. 1566, 45—45б); ехал есми ... до именья их милости Дорогозского, яко до наблизшого двора сел оных (АВК, XXXVI, 6—7, 1582); тогды тотъ поѕмавши маеть што наблизшымъ по дорозе тоѕ людемъ ѡколичнымъ а будет ли поблизꙋ возныѕ и возномꙋ то ѡповедати и ѡказати его (Ст. 1588, 528—529).

2. *Самы блізкі па часе, наступны.* велканоц нша не самого днꙗ дi першого мсца ꙗко жидове, але в ндлю першꙋю по чотырнадцатом днꙗ наближшꙋю стимо (Выкл., 3б).

3. *Тое, што і* найблизший *у* 2 *знач.* наближшии к немꙋ ... семъ боꙗръ перьскых и мадаискых лицевидци црвы сѣдꙗщіи оу первых оу црства (Зб. 262, 127); могꙋть быти ѡпекꙋнами и белые головы по мечу также старшые тымъ детꙗмъ наблизьшие (Ст. 1588, 292); ꙋставила право всюды под горлом абы се поѕмовали ѡдно што наблизшие кревни (Бельск., 13б); если бы ани стрыевъ мѣлъ данѡ бꙋдетъ дѣдиство тымъ которыи емꙋ сꙋть наближшіи (Хран., 146б).

4. *Тое, што і* найблизший *у* 4 *знач.* Жикгимонтъ третій ... королевства Шведского наближшый дѣдичъ и пришлый король (АЗР, IV, 1, 1588); Жыкгимонтъ третій ... королевства Шведского наблизшый дедичъ (ИЮМ, I, 317, 1593). *Параўн.* наблизний.

**Наблудити** *дзеясл. Награшыць, нарабіць грахоў.* до всѣх мꙋдрꙋю и набожнꙋю реч ꙋчинил, просꙗчи абы бга право знали а богом фалшивым которые помочи никомꙋ не могут не слꙋжили, досыт есми (мовит) наблꙋдыли (Бельск., 26б).

**Наблюдати** *дзеясл. Наглядаць, назіраць.* Съблюдаю: Заховываю, наблюдаю, назираю, наглꙗдꙋю (Бяр., 161—162).

**Наблюденье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* наблюдати.Назираніе: Наблюдене, надзирок, надглꙗдане, зазиране (Бяр., 85); Съблюденіе: Перестереганье, захоpower, назиране, наблюдене (Там жа, 162).

**Набогатший** *прым. Тое, што і* найбогатший. В риме вночи перун запалил божницꙋ спокоѕнꙋю котораꙗ была наѕболшаꙗ бꙋдовнѣѕшаꙗ и набогатшаꙗ во всем мѣсте (Бельск., 241б); мѣсто .. зо всѣх сторон полночных набогатшое и наславнѣѕшое ѡпановал (Стрыйк., 570); што набогатшие з людꙋ кланꙗти сꙗ тобѣ будꙋт (Пс. XVII, 23б).

**Набоданый** *дзеепрым. Зацягнуты, сціснуты, сцягнуты, туга завязаны.* набодан ꙗремъ простꙋпокъ моих рꙋкою его сплелисꙗ и възошли на шию мою (Зб. 262, 110б).

**Набоденый** *дзеепрым. Наколаты, насаджаны, нанізаны на што-н. вострае.* Напранѕ: Наколеныи, набоденыи (Бяр., 87).

**Набоденье** *наз. Наколка, насадка.* Напраніе: Наколенˢе, набодене, наколотˢе (Бяр., 87).

**Набоженство, набоженьство** *наз.* **1.** *Рэлігія, вера, веравызнанне, вераванне.* церковъ Восточная набоженства Греческого и Руского ... черезъ часъ долгій, въ неякой разности и въ расколѣ вѣры светоѣ ... хвѣялася (АЗР, I, 56, 1443); помененый пляцъ и дворъ маютъ ... вси таковые братья въ Кристусе, которыи того таковою проповѣданья и набоженства евангелицкого наслядуютъ (АВК, VIII, 408, 1577); жаловалъ ... на патроновъ и головънейшыхъ професоровъ набоженства збору саского (АВК, XX, 61, 1591); не хочемъ продьковъ нашихъ набоженьства ѡтстꙋповать ани веры новое ставить (Бер. саб., 56б); Ѿ набоженствѣ нашиx продков славꙗнов и иных народов ꙗкое теды было еще за поганства (Стрыйк., 432б); вси церкви набоженства Греческого въ его архіепископіи зъ духовными ихъ подъ его радъ, владзу и оборону духовную подати (АВК, I, 68, 1634); никого кривдити и ꙋтискати в справѣ набоженства не допꙋстимо (Дыяр., 170б); тишеˢ бы з вами катове поступовали бысте набоженство свое ѡпустили (Зб. 82, 407б). *Параўн.* набожнство *ў 1 знач.*, набожство *ў 1 знач.*

**2.** *Рэлігійны абрад, богаслужэнне; набажэнства, царкоўная служба.* набоженство порядкомъ церковнымъ одправовали (АСД, I, 6, 1507); во всихъ церквахъ оного владычства Пиньского и Туровского набоженство ... водлѣ звычаю закону Греческого отправовано было (АЗР, III, 189, 1576); набоженьства свое в той церкви отправуют (СДГВ, 27, 1596); ѡбразы на процесиˢ носꙗт або коли набоженство ꙗкое ѡтправꙋют (Зб. 261, 209); потом был за кгедимина наˢвышшим быскꙋпом або преложоным набоженствъ поганских (Стрыйк., 537б); всяких обыходов набоженъства их водлугъ звычаю хрестианъского свободне и доброволне уживати позволяем (СДГВ, 82, 1633); ведлугъ церкви всходнее набоженства и церемоніи заживати мают вѣчными часы (Дыяр., 155б—156); Отцу старшому по набоженстве дали золотыхъ чотыри (ИЮМ, II, 37, 1683).

**3.** *Набожнасць, вера ў Бога і выконванне ўсіх рэлігійных абрадаў.* которые оу вере и в набоженстве помоци ихъ пожадали (Валх., 76); благочестіе — богобойность, побожность, набоженство (Зіз., 16); доброволне з набоженства складали побор на ѡправꙋ церкви (Бельск., 133б); просимо именемъ Б҃жимъ, и сами ѡт себе оусилне, жебысте сѧ набоженства и Бл҃гочестіѧ вашего не лишали (Пауўст., 10б); Нѣкоторіи абовѣмˢ такъ далеце вˢ ласцѣ Б҃жей оуфаютˢ, же сѧ еще силнѣйшими, хочъбы сѧ до

нихъ злость примѣшала ставаютъ, маючи млтвꙋ, горѧчое набоженство, и оутѣхꙋ вˢ Бзѣ (Мак., 180); Блгоговѣніе: Пріазнь, чистост, боѧзнь, ѡбачност, ѡпатрност, набоженство, побожност (Бяр., 4); Шлюбы и ѡного часꙋ были в звычаю ꙋ людиˢ стых, которые они чинили без вшелꙗкого приказанꙗ, тылко з доброи воли и набоженства своего (Выкл., 22); Июдиѳъ ... ѡсобныˢ собѣ палацык збудовавши, там во всем набоженствѣ жила (Зб. 82, 371б). ◊ З ъ н а б о ж е н с т в о м ъ — *набожна.* ѡферовали золото ладан и мирроу ис силною покорою и набоженствем (Валх., 77б); богобоˢне з великимъ набоженствомъ принꙗвши стыѧ таˢны дшꙋ свою гсдꙋ бгꙋ предала (Барк., 153б); Ѡпиза, которыˢ наˢпервеˢ ѡрат вˢ египте люд наꙋчил волами, хвалили за бга з великим набоженством (Стрыйк., 432б). *Параўн.* набожнство *ў* 2 *знач.*, набожство *ў* 2 *знач.*

4. *Малітва.* въ которые дни люде завжды звыкли заживать набоженствъ своихъ (АВК, VIII, 16, 1595); самог себе покрепꙗл набоженством и покорою (Зб. 261, 99); ночы тоеи ꙋказалисꙗ двѣ ѡсобы ꙗкобы посланцы црские ѡдному члку бꙋдꙋчому на набоженствѣ (Зб. 81, 57).

**Набожне** *прысл. Набожна; з глыбокай пашанай, з глыбокай павагай.* на того ѡбразу виденіе толко твои пан набожне оувѣрит натыхмѣстъ здоровье свое ѡдержит и прииметь (Пак. Хр., 24); епископа небеснымъ россꙋдкомъ а зданьемъ нашим назначоного, хꙋтливе и набожне пріймꙋйте (Апакр., 132); хрстиꙗне ... ден нароженꙗ хрстова, набожне стили (Бельск., 256); Енос сын сифов внꙋкъ адамов тот теж статечне и набожне собѣ жил (Стрыйк., 414); бжственои наꙋки ... слꙋхаймѡ, а набожне и то, што читано, и ово, што спѣвано бываетъ, оуважаймо (Каліст, II, 31—31б); На завтрѣе зась выкопавши подле ꙗскини гробъ и стобливое тѣло велце набожне взѧвши дховного ѡтца ѡсобливыи и намилшій снъ, погреблˢ (Варл., 355б); Съ блгоговѣніем: ѡпатрне, набожне (Бяр., 4); назначеныи Братіѧ ... иншіе пред настѣйшим сакраментом зˢ свѣчами дрꙋгіе за сщнником набожнѣ ити повинни бꙋдꙋтъ (Ст. бр., 17); встане з постели и познаеть епископа стого, поклонившисꙗ набожне поздоровит его (Пралог, 60б); стый василеˢ ... знову свои мнишеские и законничие подвиги чинил набожне (Зб. 82, 416).

**Набожней** *прысл., выш. ст. ад* набожне. вси пꙋстелници вˢ ꙗскинꙗх жили ... абы ... млтвы набожнѣ ѡтправоват могли (Зб. 261, 144).

**Набожнейший, набожнейшый** *прым., выш. ст. ад* набожный. коли тыи три королеве до своихъ змль преехали всѣхъ людей

